ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №78 (4436) СЕРАДА, 28 верасня 1994 года | Кошт па падпісцы — 8 руб., у розніцу — 30 руб.

# ДУМЫ НАСТАЎНІКА

СПОВЕДЗЬ

## Не выстудзі чалавечае

Некалі быў народны жарт: "Каб пражыць у шчасці, трэба красці, красці!" Зараз гэты жарт ператварыўся ў сур'ёзную і бадай што адзіную "мудрасць" жыцця.

З намі, нашымі дзецьмі адбываецца такое падзенне, якое можа стаць незваротным. З чалавечага сметніку вылезці амаль немагчыма. Катастрофу назад не адкруціш, як кінастужку.

Калі народ даведзены да стану, што ад яго, як ад драпежнікаў, ахоўваюць калгасныя палі атрады міліцыі — гэта страшна. Я не пазнаю свой народ. Мы губляем сваё аблічча. Мы губляем — сябе.

Бо мы былі зусім іншыя. Давайце ўзгадаем кожны свой род. Колькі годнасці, чалавечай прыгажосці было ў ім.

Бабулька мая, Ксенія, вучыла нас, дзяцей, з пялёнак (як самай найгалоўнай) мудрасці: "Нават калі знойдзеш нешта на дарозе — у дом не нясі. Ад чужога — бяда будзе. Нехта ж згубіў, плакаў. Чужыя слёзы — слязамі і выльюцца. Бяжы адразу, пытайся — чыё. Нясі чалавеку."

Народу не патрэбна была гульня ў прыгожыя словы, у высакароднасць — тут гаварыла мудрасць народная, набытая стагоддзямі.

У прабабкі маёй было 13 дзяцей: 12 дзяўчынак і хлопчык. Не баяліся нашы дзяды і прадзеды цяжкасцяў — карміць жа трэба, апранаць. Каб баяліся, як мы, дык і нас не было б. І гордыя былі!

Прабабка, простая сялянка, адмовілася сваёй пані ручку пацалаваць. Хаця многія лічылі гэта за свой ганаровы абавязак...

— Цалуй руку, быдла! — крычала яснавяльможная.

Прабабка адказала, што пані сама — быдла.

Паклікалі гайдукоў. Тыя засеклі прабабку на вачах усёй вёскі. Кроў горлам пайшла — і засталіся 13 сірот, сярод іх мая бабулька, Ксенія.

Не было ў яе нічога — ні бялізны, ні каровы, ні манет у панчосе, ні долараў з маркамі. Было ёй — 6 год. Пабегла з дому, калі бацька прывёз мачаху з 6 душамі. Гнаўся прадзед за Ксеніяй у люты мароз. Прабегла па тонкаму льду. Бацьку слабы лёд не пусціў, прымусіў спыніць пагоню. Дабегла бабулька да нямецкіх хутароў.

Сцямнела. У двор не зайсці — сабакі. Лягла пад агароджай і заснула. Думала, назаўсёды. Выйшаў гаспадар, каб сабак супакоіць, а на зямлі — змерзлае дзіця. Веруючая душа не магла дапусціць граха — унёс у хату, адагрэў. Засталася бабулька ў няньках.

Грымнула рэвалюцыя, пазвалі ў камсамол, грамаце вывучылася. Выбілася ў людзі. Выйшла замуж за добрага, але хворага чалавека. Як ні старалася, ні аддавала апошняе, выратаваць не ўдалося. Зноў засталася адна з дачкой, з маёй маці.

Так яно — бяда за бядой. І ніяк няшчасці і цяжкасці не маглі выстудзіць у чалавека — чалавечае. У Айчынную вайну бабулька хавала, рызыкуючы жыццём, у сваім паграбе яўрэяў і афіцэрскіх жонак. Неяк немцы прыйшлі з сабакамі — данеслі "добрыя" людзі. Загрукаталі прыкладамі.

Выручыла... мова. З годнасцю абурылася на чыстай нямецкай — як можна дазваляць так паводзіць сябе? Адкуль ведаю мову? Выхоўвалася ў дастойнай нямецкай сям'і. Дачку хаваю? Дачка ад сухотаў памерла, паглядзіце на партрэт у чорнай рамцы. Спалохаліся сухотаў, пайшлі.

Хутка і нашы прыйшлі. Тата, танкіст, вызваляў горад і сустрэў маю маці. Убачыў прыгожую дзяўчыну, скочыў з брані.

Затым — пасляваенны голад. Людзі падалі каля сметнікаў. Пераехалі ў Мар'іну Горку, дзе я і нарадзілася. Добрыя людзі з шэрымі, спакутаванымі тварамі. Чэргі, чэргі. "Уставай, дзіцятка, а то не дадуць на цябе макароны!" — будзілі малую ў 6 гадзін раніцы.

Памёр Сталін. Строем плакалі каля помніка. Потым быў Хрушчоў з чэргамі за хлебам. Брэжнеў — са штучным дэфіцытам на ўсё і з культам прадаўцоў. Потым — пустыя паліцы перабудовы. Узбагачэнне зладзеяў і спекулянтаў. Палка каўбасы — у чвэрць зарплаты сапраўднага працаўніка.

Вось я і думаю: чаму мае бабулькі, цёткі і дзядзькі не беглі ў Канаду ці Францыю — калі было цяжка? Чаму ўпрагаліся і выцягвалі — сям'ю, заводы і калгасы?

Не адпачывалі не толькі на Гаваях ці Канарах, наогул не адпачывалі. І не праклiналі радзіму, не смяяліся над зямлёй бацькоў, не кпілі з іх за тое, што яны не накралі за сваё жыццё.

Прабабка палічыла ніжэй за чалавечае званне цалаваць ручку сваёй (дык — сваёй жа!) пані.

А зараз... Неяк ад годнасці нашай застаецца толькі пусты гук. А, значыць, — ад нас... Сумна.

Ну нельга ж — цягнуць руку за лыжкай сурагату да тых, хто нас рабуе. Нельга вазіць сваіх дзяцей у чужыя сем'і, каб падкармілі. Няўжо незразумела? Жабрацтва — гэта стан душы. Жабрацтва і пачынаецца — з жабрацтва душы.

Не, сын, я не супраць, каб ты паехаў за мяжу. Але хачу, каб ты паехаў як прадстаўнік паважаючай сябе нацыі. Каб мы ганарыліся табой. Каб на цябе там глядзелі, як на выдатнага спецыяліста з Беларусі, без якога не могуць абысціся.

Калі ты гэта зразумееш, калі твае аднагодкі зразумеюць жыццё сваіх бацькоў і дзядоў, тады нацыя будзе жыць. І тады — хай нам зайздросцяць.

А пакуль нам не да Гаваяў. Брыдка ад тэлезаклікання паехаць туды, ну іх! Будзем цярпець і працаваць. На гэтым стаяла і стаіць зямля наша.

Таццяна КАРЭЛІНА,
настаўніца.

НЕ МАГУ ПАГАДЗІЦЦА

## Дзядуля Крылоў папярэджваў...

Татальнае рэфарматарства апошнім часам захліснула і асвету і асветнікаў, не абышла такі гэтая чаша і такую традыцыйна кансерватыўную сферу жыцця як адукацыя. Замест звыклых "сярэдніх палітэхнічных", да якіх часам дадавалася "імя...", усё часцей з'яўляюцца гімназіі і ліцэі.

Натуральна, узнікае пытанне, чым адрозніваюцца яны ад звычайных школ, якія яшчэ захаваліся? Пытанне, на жаль, можа застацца рытарычным, калі не адкажам яшчэ на адно. Як жа карэнным чынам павінна была змяніцца яшчэ нядаўна ўсенародная адукацыя, каб жаданай явай сталі элітарныя школы? Напэўна, у нашай надзвычай усярэдненай адукацыі таілася інтэлектуальная эліта, якой было цеснавата ў агульнадаступнай і абавязковай сярэдняй і якой нарэшце прадастаўлены ўсе магчымасці для самавыяўлення. Мабыць, немалаважную ролю ў гэтым адыграла і наша педагагічная навука. Клапоцячыся аб перспектывах бесперапыннай адукацыі ад дзіцячага садка да самых вышэйшых яе ступеняў. І нашы гімназіі і ліцэі, якія ўжо неяк язык не паварочваецца назваць папросту школамі, будуць такім неабходным у гэтым ланцужку сувязным звяном паміж сярэдняй і вышэйшай адукацыяй.

Ну як не згадаць тут параду незабыўнага Казьмы Пруткова "не верыць вачам сваім"! Цікава, колькі б "панегірыкаў" было напісана ім з гэтай нагоды, каб ён быў нашым сучаснікам. Не выключана мажлівасць, што вялікія нашы школьныя пераўтварэнні пазбавілі б яго сатырычнага дару ўвогуле. Бо сатыра, што бічуе асобныя негатыўныя праявы грамадскага жыцця, павінна абапірацца ўсё ж на сацыяльны пазітыў. А калі агульны фон жыцця ўсё менш кантрастуе з сатырычным адлюстраваннем некаторых яго бакоў, то сатыра сама па сабе страчвае сэнс і растварaецца ў прасторы татальнага абсурду. У нас такога роду кантраст робіцца ўсё менш выразным, сціраюцца грані паміж паняццямі грамадскага дабра і грамадскага зла.

Ці не па той жа прычыне ўсё больш непапулярнымі становяцца на эстрадзе нашы вядомыя сатырыкі? А навошта бываць на іх канцэртах, калі гэткія ж нумары, толькі яшчэ болей натуральныя і выразныя, выконваюцца скрозь: у кабінетах, за трыбунамі, за прылаўкамі...

І усё гэта, як на лакмусавай паперцы, выяўляецца ў мове, асабліва ў грамадска-палітычнай тэрміналогіі і фразеалогіі. Удумайцеся ў ходкі сярод палітыкаў выраз — "забяспечыць сацыяльную абарону малаяёмных слаёў насельніцтва".

Каго абараняюць — зразумела, ад каго абараняюць — можна здагадацца пры пэўным намаганні, ну а хто абараняе — ясней яснага. Вось і атрымліваецца, што абаронцы абараняюць абараняемых ад абараняючых, канкрэтней — ад саміх сябе. Пры гэтым абараняемыя заканамерна пазбаўлены магчымасці абараняцца самі, бо гэты клопат на сябе ўжо ўсклалі абаронцы.

Такому гратэскнаму каламбуру мог бы пазайздросціць нават сам Салтыкоў-Шчадрын. Ды і Ільф з Пятровым (памятаеце іх крылатую фразу "выратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў") адчулі б, напэўна, сябе пасля знаёмства з гэтым выслоўем толькі пачаткоўцамі.

Абсурдныя словы ў нас гарманічна спалучаюцца з абсурднымі лічбамі. Вось толькі адна з іх, блізкая тэме публікацыі: за навуковую ступень кандыдата навук у нашай сістэме адукацыі, дзе бясконцы клопат аб інтэлектуальным развіцці грамадства ахапіў усіх школьных рэфарматараў, плоцяць кругленькую суму... У размеры адной мінімальнай зарплаты.

Але вернемся да нашых навучальных устаноў новага тыпу, сярод якіх апошнім часам ужо сустракаюцца нейкія сінтэзаваныя назвы: "школа-гімназія", "школа-ліцэй".

Паглядзім на гэты дзіўны педагагічны сімбіёз з моўнага пункту гледжання, паколькі ўжо мы адзначылі, што ў мове аб'ектыўна фіксуюцца ўсе сацыяльныя казусы, трэба толькі ўмець чытаць. Дарэчы, пры ўсіх зменах у вышэйшай школе да вызначэння статуса навучальных устаноў вось такім чынам яшчэ не дайшлі, не сустракаюцца тут такія моўныя навацыі, як "інстытут-універсітэт", "універсітэт-акадэмія". Што датычыць падобных наватвораў у сярэдняй школе, дык хацелася б напомніць, што згодна з азначэнем тых жа рэфарматараў, гімназіі і ліцэі — гэта таксама школы, толькі новага тыпу. І атрымліваецца, што назва дзіўнай, мякка кажучы, навучальнай установы "школа-гімназія" выглядае пры адносна уважлівым чытанні так: "школа — школа новага тыпу". Магчыма, (што, відаць, і самае верагоднае) і такое прачытанне: "ні школа — ні гімназія", "ні школа — ні ліцэй", ні тое — ні сёе.

Вяртаемся, такім чынам, да зыходных пытанняў нашай публікацыі, для адказу на якія недастаткова ўважлівага чытання шыльды, нават з элементамі лінгвааналізу. Неабходна на ўсё гэта паглядзець суадносна з праблемамі ўласна педагагічнымі, бо ў моўных дзіўнасцях (маюцца на ўвазе новыя найменні) як найлепш выяўляецца дух і літара сучаснага рэфарматарства ў адукацыі. Як лагічна і проста — усё вялікае вызначаецца прастатой — з пэўнай колькасці школ арганізаваць некалькі ліцэяў і гімназій. Збіраем вучняў з мінімальнай колькасцю нежаданых адзнак, папярэдне стварыўшы камісію па адбору, а можна і без яе, уводзім некалькі новых, часам проста экзатычных прадметаў — і навучальная ўстанова новага тыпу гатова. Тым больш, што пры нязначнай карэкціроўцы гэты "галавакружны" працэс адпавядае ідэям дэферэнцыяцыі навучання, так папулярным апошнім часам у педагогіцы.

Застаецца толькі шкадаваць, што жыватворная дыдактычная ідэя, у якой закладзена неабходнасць аптымальнага задавальнення творчых запатрабаванняў самых розных груп навучэнцаў, аказалася недарэчным чынам выпустошанай кан'юнктуршчыкамі і набыла змест, які характарызуецца адным словам — падзел. Магчыма, у многіх не хапіла цярпення чытаць у слоўніку далей пра значэнне слова "дыферэнцыяцыя". Як вядома, яны — многія — людзі занятыя, ім чытаць, а тым больш вывучаць штосьці няма калі. Улавіўшы, што падзяляць трэба з такой жа руплівасцю, як калісьці "не пушчаць", яны і пачалі... Не-не, не падзяляць (як можна ў новы дэмакратычны час!), а дыферэнцыраваць на двоечнікаў і выдатнікаў, на дрэнных і добрых, на здольных (па іх меркаванні) і няздольных.

Ды вось скруха: сабраць усіх здольных у гімназіі і ліцэі аказалася на практыцы складаней, чым у тэорыі. Ды і тых гімназістаў і ліцэістаў, якія ўжо, так бы мовіць, адбыліся, трэба час ад часу падзяляць паўторна, бо не ўсе ж здольныя засвоіць у дадатак да абавязковай праграмы складаную гімназічную ці ліцэйскую (так і хочацца чамусьці сказаць "лицедейскую") даважку, якая складаецца з надзвычай неабходных і сапраўды актуальных прадметаў. А яшчэ розныя гурткі і факультатывы — галава кругам!

Вось і з'яўляюцца дзіўныя назвы: "школа-гімназія", "школа-ліцэй". Не выключана магчымасць, што нас яшчэ чакае не толькі выдзяленне асобных гімназічных класаў у школах, але і з'яўленне ў некаторых класах "гімназічных" вучняў: гэта будзе зусім паслядоўна ў працэсе сучаснага рэфарматарства.

Пры ўтварэнні такіх дваістых навучальных устаноў у іх канструктыўнымі сіламі закладваецца механізм абароны школьных рэформ ад дэструктыўных сіл. Усё тое, што падлягае крытыцы з боку дэструктыўных сіл пераводзіцца ў звычайныя класы, а тое, што адлюстроўвае рэфарматарскія намаганні канструктыўных сіл і што можна заўсёды прадэманстраваць, знаходзіцца ў гімназічных. Недастойных гімназістаў і ліцэістаў пастаянна можна перакідваць (пераводзіць) у класы звычайныя.

Застаецца толькі здзіўляцца бюракратычнай мудрасці.

А ці падлічыў хто-небудзь, які педагагічны , маральны і эканамічны ўрон наносіцца сістэме адукацыі? Як сябе адчуваюць вучні і бацькі, марна спрабуючы зразумець перавагу новых школ? А як настаўнікам пры такім дыферэнцыраванні? Пытанні, безумоўна, застаюцца без адказаў.

Падзел на здольных і ... не зусім здольных узмацняецца яшчэ і выдзяленнем так званых профільных класаў (матэматычных, эстэтычных, экалагічных і інш.) — наколькі каму дазваляе фантазія. Не так даўно давялося пачуць нават пра адкрыццё 5-х класаў эканамічнага профілю, што ўсяляе сур'ёзныя надзеі на эканамічны роквіт Рэспублікі Беларусь.

Натуральна, пры прафіляванні ўлічваецца не толькі паспяховасць — схільнасці вучняў вызначаюцца шляхам старанна прадуманага тэсціравання і прасочваюцца спецыяльнымі псіхолага-дыдактычнымі службамі на працягу цэлага шэрагу год, аж да паступлення пасля школы ў навучальныя ўстановы назначанага профілю. Канешне, усе так, інакш гэта прыводзіла б толькі да педагагічных і матэрыяльных выдаткаў.

Ад дэструктыўнай крытыкі і іранічнага тону асмелімся перайсці да канструктыўных парад, як патрабуюць таго законы жанру. У якасці найпершай парады дазволю сабе працытаваць дзядулю Крылова з уласным успаўненнем:

"Чтоб музыкантом быть,
Так надобно уменье" —
А не служебное лишь рвенье.
И в отношеньи всяческого рвенья
Пора бы поумерить пыл!

Далей і больш сур'ёзна неабходна: стрымана ставіцца да ўвядзення новых гімназічных прадметаў, а ўжо калі такія з'явіліся, то яны павінны сістэмна дапаўняць і паглыбляць абавязковы дзяржаўны кампанент адукацыі.

І яшчэ, арганічнае спалучэнне ўсіх прадметаў (новых і традыцыйных) у цэласную адукацыйную сістэму, каб пазбегнуць хаатычнага нагрувашчвання навучальных дысцыплін, магчыма толькі ў кантэксце развіццёвага навучання. Яго канцэпцыя, дастаткова поўна распрацаваная ў педагагічных даследаваннях, чамусьці ў асноўным так і засталася тэорыяй, і школы новага тыпу, на жаль, выключэння не склалі, нягледзячы на ўвесь творчы патэнцыял, закладзены ў дэталёва падрыхтаваных дакументах гімназій і ліцэяў. Звыклая схема "запамінанне, засваенне — узнаўленне" (загад, інструкцыя — выкананне) аказалася недасягальнай для ўсялякіх там канцэпцый і канцэптаў.

І нарэшце, у гэтых адносінах трэба зрабіць зусім нямнога: вызваліць настаўніка ад бюракратычнай увагі, але ўмацаваць дыдактычны і метадычны ўплыў школьных кіраўнікоў. Гэта значыць — даць магчымасць гэтым кіраўнікам праявіць сябе перш за ўсё ў якасці выкладчыкаў, бо вышэйшымі катэгорыямі ў свой час яны былі адзначаны не за адміністратыўныя доблесці, а за найлепшую работу ў выкладанні школьных прадметаў. А той факт, што ўсе школьнае кіраўніцтва з'яўляецца настаўнікамі вышэйшай катэгорыі, наўрад ці выкліча ў некага пярэчанні — і зразумела, чаму. І калі начальніцкія аўтарытэты замест "указующего перста", які вельмі часта абарочваецца для ўсіх кукішам, вымушаны будуць дэманстраваць уласныя дасягненні ў рабоце з навучэнцамі, тады, магчыма, не ўзнікне неабходнасць укараняць ва ўжытак дзіўныя неалагізмы: "школа-ліцэй", "школа-гімназія".

На заканчэнне ўспамінаецца колішняе інтэрв'ю, якое даў маленькі гімназіст адной з правінцыяльных газет. На каварнае пытанне карэспандэнта, чым жа адрозніваецца іх гімназія ад звычайнай школы, з усёй непасрэднасцю і ўпэўнена кемлівы хлопчык адказваў, што ў іх шмат гурткоў і ўсялякіх секцый. Наколькі цяжка нешта дадаць да фінальнай рэплікі маленькага героя з даволі вядомай казкі Андэрсана пра голага караля, настолькі і гэта вычарпальнае і пераканаўчае тлумачэнне юнага гімназіста, а дакладней, прагімназіста, наўрад ці маглі б чым-небудзь дапоўніць нават самі стваральнікі школ новага тыпу.

Міхаіл ГРЫГАРКЕВІЧ,
настаўнік 1-й баранавіцкай школы.

Я МЯРКУЮ ТАК

## Шэсцьдзесят пытанняў на засыпку

У мінулым навучальным годзе гісторыя ў 5 — 9 класах выкладалася па новых праграмах. Пераход на новы змест гістарычнай адукацыі ў 10 — 11 класах плануецца здзейсніць у наступным навучальным годзе. Параўнальна нядаўна праекты праграм па сусветнай гісторыі і гісторыі Беларусі для 10 — 11 класаў былі змешчаны ў "Настаўніцкай газеце". У іх адрас можна выказаць шмат заўваг. Перш за ўсё кідаецца ў вочы перагружанасць праграм фактычным матэрыялам. Так, у працэсе вывучэння толькі адной тэмы "Узнікненне Савецкай дзяржавы. Асноўныя тэндэнцыі яе развіцця (1917 — 1941)" (Усеагульная гісторыя, 11 клас) аўтары праграмы прапануюць разгледзець 60 пытанняў. Застаецца толькі гадаць, колькі пытанняў прапануецца вучням за ўвесь 11 клас і ў якой ступені выпускнікі змогуць засвоіць такі велізарны матэрыял.

Пры абмеркаванні канцэпцыі гістарычнай адукацыі яе аўтары сцвярджалі, што вывучэнне гісторыі ў 10 — 11 класах у адрозненне ад першай ступені навучання павінна адбывацца на больш высокай тэарэтычнай аснове. Аднак прасочым, як гэтыя пажаданні ажыццяўляюцца на практыцы. Для гэтага параўнаем назвы пытанняў I і II ступені.

I ступень: "Аб'яднанне краіны і ўтварэнне сёгуната Такугава. Характарыстыка сёгуната" (8 кл.), "Паўночная вайна. Стварэнне рэгулярнай арміі і флоту, будаўніцтва гарадоў" (7 кл.), "Шматукладная гаспадарка. Развіццё феадальных адносін" (6 кл., Гіст. Бел.), "Прымусовае ссяленне яўрэяў у гарады і мястэчкі" (8 кл., Гіст. Бел.).

II ступень: "Іэясу Такугава — выдатны аб'яднальнік краіны. Сістэма сёгуната" (10 кл.), "Пачатак Паўночнай вайны. Рэарганізацыя арміі" (10 кл.), "Шматукладная гаспадарка і яе феадалізацыя" (10 кл., Гіст. Бел.), "Прымусовае ссяленне яўрэяў у гарады і мястэчкі".

Не трэба быць вялікім спецыялістам-гісторыкам, каб заўважыць, што пералічаныя пытанні проста дубліруюць адно другое. Каб лепш паказаць недарэчнасць такой з'явы, можна прывесці наступную аналогію: уявіце сабе сітуацыю, калі б табліца множання вывучалася спачатку ў пачатковай школе, а потым у 10 або ў 11 класе. Большасць настаўнікаў назвала б гэта абсурдам. Вось і ўзнікае пытанне: навошта вывучаць адно і тое ж па два разы?

Добра вядома, што пытанні па вызначэнні дзяржаўнага ладу Расіі ў першай чвэрці XVIII ст. і ацэнкі дзейнасці Пятра I з'яўляюцца дыскусійнымі ў гістарычнай навуцы. На жаль, гэты момант не знайшоў адлюстравання ў праграме па сусветнай гісторыі.

У праграмах адсутнічае і накірунак на тэарэтычнае асэнсаванне кастрычніцкіх падзей 1917 года ў Расійскай імперыі. Ніхто не заклікае спяваць дыфірамбы "мудраму народнаму выбару". Задача аўтараў праграм і падручнікаў заключаецца ў тым, каб з вышыні сучаснага развіцця гістарычных навук высветліць усе тэарэтычныя і рэальна магчымыя шляхі палітычна-грамадскага развіцця Расіі і Беларусі, паказаць, які ўплыў гэта аказала на гістарычнае развіццё народаў Расіі і свету.

Праграма па гісторыі Беларусі выглядае больш цікавай. Перш за ўсё гэта тлумачыцца імкненнем разглядаць гістарычныя працэсы, якія адбыліся на беларускай зямлі, у кантэксце еўрапейскай і сусветнай гісторыі.

Але нягледзячы на гэту навізну, можна заўважыць, што па-за ўвагай аўтараў засталіся суседнія краіны (Польшча, Украіна, Літва, Латвія, Эстонія). Пры разглядзе сярэднявечнай гісторыі Беларусі, на наш погляд, нядрэнна было б закрануць і такія праблемныя пытанні, як "ВКЛ (Рэч Паспалітая) і праблема абсалютызму", "ВКЛ і знешнепалітычныя альтэрнатывы сярэдзіны XVII ст.", "ВКЛ і Расія: еўрапейская і азіяцкая мадэлі грамадскага ўладкавання", "ВКЛ: шлях ад адзінаўладдзя да саслоўна-прадстаўнічай манархіі і шляхецкай рэспублікі".

Неабавязкова, на нашу думку, так падрабязна спыняцца на падзеях першай сусветнай вайны. Даволі багаты фактычны матэрыял па гэтай тэме прапаноўваецца ў курсе 8 класа. Увагу вучняў старэйшых класаў можна было б скіраваць на ўплыў першай сусветнай вайны на нацыянальна-вызваленчы і палітычны рух, на эканамічнае развіццё Беларусі.

Толькі пошук новых падыходаў у адносінах да гісторыі прынясе карысць настаўнікам і вучням.

Леанід ДЗЕКЦЯРОЎ,
настаўнік гісторыі Купішскай школы
Браслаўскага раёна.

ПРАПАНУЕМ

## Пашпарт здароўя? А чаму б і не!

Неабавязковы характар заняткаў фізкультурай і спортам ставіць пытанне аб эфектыўнасці розных праграм здароўя, комплексаў тыпу ГПА, усяго таго, што не мае прамога дачынення да патрэбнасцяў чалавека. А патрэбнасці, асабліва моладзі, часта фарміруюцца пад уплывам жаданняў. Таму і даводзіцца часам бачыць, як юнакі і дзяўчаты ўжо ў 13—14 год кураць і ўжываюць алкаголь. Піць ды курыць іх ніхто не прымушаў. Жаданне выглядаць дарослымі, перайманне не лепшых прыкладаў, падпарадкоўванне паводзін толькі сваёй волі, свайму "Я", дае падставу гаварыць аб адсутнасці моцных маральных асноў у грамадстве, якія накіроўвалі б моладзь у неабходным напрамку. Але той, хто даражыць жыццёвай пазіцыяй, заўсёды адпавядаючыя прыклады ў спорце. Тыя якасці, якія выхоўвае спорт, дапамагаюць не толькі фізічнай, але і псіхічнай загартоўцы чалавека і пераносяцца ў яго паўсядзённае жыццё, ствараючы стэрэатып дзеянняў. Вось чаму неабходны абавязковыя заняткі спортам!

Увага тэлегледачоў цэлы месяц была прыцягнута да чэмпіянату свету па футболу ў Амерыцы. Радавала позірк шматлікасць гледачоў з розных краін на трыбунах стадыёнаў. Ці не гаворыць гэта аб іх высокім узроўні авалодання фізічнай культурай? Толькі чалавек, які мае непасрэднае дачыненне да спорту, можа ацаніць спаборніцтвы, і яны будуць прываблiваць яго. Арганічная сувязь са спортам — гэта стыль жыцця. Да амерыканцаў ён прыйшоў праз неабходнасць вялікіх намаганняў у пошуку сродкаў да жыцця, у барацьбе за існаванне, што, натуральна, прывяло да больш уважлівага позірку на сваё здароўе. Таму заўсёды нядзелю яны аддаюць заняткам спортам. Здаровы больш зробіць, быццам бы простая аксіёма, але ставіць яна сэнс заняткаў фізічнай культурай у плоскасць неабходнасці. У наш турботны час мы ідзём тым шляхам, які ўжо пройдзены іншымі краінамі. Патрэбна пераняць найлепшы вопыт, што больш эканамічна, чым правяраць яго на сабе, ствараючы небяспечную сітуацыю.

Падтрымка цела ў добрым стане абавязкова для прафесій, у якіх неабходна надзейнасць, хуткасць, добрая рэакцыя, псіхічная і фізічная трываласць. Гэтыя якасці неабходны таксама і вайскоўцам. Таму хлопцы павінны ісці ў армію ўжо добра фізічна падрыхтаваныя, каб маглі вытрымаць цяжкасці армейскай службы. Гэта можа здзейсніцца толькі са зменай адносін да фізкультуры і спорту ва ўсім грамадстве, з адраджэннем погляду на фізічнае выхаванне, як на стрыжнёвы момант у развіцці чалавека.

Кожнаму чалавеку трэба ведаць свае магчымасці, і гэтай мэце можа, на маю думку, паслужыць пашпарт здароўя, які накіроўваў бы чалавека па найбольш эфектыўнаму шляху развіцця яго фізічных магчымасцяў. Пашпарт мог бы адлюстроўваць адносіны чалавека да заняткаў фізічнай культурай, ступень яго падрыхтоўкі да працоўнай дзейнасці, неабходныя ўмовы ўдасканалення надзейнасці сістэм арганізма чалавека.

Працоўная дзейнасць павінна стаць рэгулятарам адносін чалавека да заняткаў фізічнай культурай і спортам на першым этапе, каб гэтыя заняткі сталі потым патрабаваннямі кожнага грамадзяніна краіны.

Але гэта пакуль што будучыня, якая залежыць ад агульнага культурнага ўзроўню грамадства. А зараз неабходна захаваць тое, што назапашана, стварыць новыя формы працы для развіцця фізкультуры і спорту, якія ўлічвалі б цяперашнія нялёгкія абставіны і фарміравалі гуманны тып адносін паміж людзьмі.

Віктар КАЙДАЛАЎ,
трэнер па футболу СДзЮШАР №5 Брэста.

А ВАША ДУМКА?

## "Сама і рабі..."

Звяртаюся да вас быццам бы з прыватным пытаннем, але, думаецца, яно датычыцца не мяне адной, а многіх маіх калег.

А пытанне, якое мяне непакоіць, — гэта адносіны да французскай мовы. Апошнім часам намецілася яе яўнае скарачэнне не толькі ў школах. Нават выпускнікі школ з французскай мовай у ВНУ, тэхнікумах, іншых спецыяльных навучальных установах пачынаюць вывучаць у асноўным англійскую ці нямецкую мову.

Так, зараз і больш распаўсюджанай і таму больш моднай стала англійская. Дык што, мова краіны вялікай культуры, выдатнейшых літаратуры і мастацтва Францыі ўжо зусім непатрэбная? Навошта ж тады ўвогуле наш і без таго схуднелы бюджэт выдаткоўваць яшчэ і на падрыхтоўку незапатрабаваных спецыялістаў і на выданне непатрэбных падручнікаў?

А цяпер пра асабістае.

Я працую настаўніцай французскай мовы ў сярэдняй школе №2 Новалукомля ўжо больш як 20 год. З мінулага навучальнага года ўсе пяцікласнікі пачалі вывучаць толькі англійскую мову, французскую ў школе вырашылі "выводзіць". Стаўка, праўда, у мяне пакуль што набіраецца, але гэта самыя слабыя па паспяховасці (некаторыя і па напаўняльнасці невялікія — нават на групы не дзеляцца!) класы.

Сёлета ў школе адкрываецца 1 клас з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы. Бацькі ўсіх пяцікласнікаў напісалі заявы на вывучэнне англійскай. А як быць з французскай?

Адміністрацыя мне прапанавала ісці на бацькоўскія сходы і самой агітаваць за яе. Ці ж гэта метад?

Навучальныя планы дазваляюць з 6 класа вывучаць другую замежную мову, але я чую і ад калег, і ад бацькоў, што гэта залішняя нагрузка на вучняў і таму — немэтазгодна.

Крыўдна, канечне, і за сябе, але яшчэ больш крыўдна, што знікае з нашай адукацыйнай, а значыць і культурнай прасторы такі вялікі пласт агульначалавечай каштоўнасці. Іспанскую мову з яе , амаль што ўжо выключылі, цяпер — чарга французскай?!

А ёсць жа, напэўна, нейкія нарматыўныя дакументы, якія рэгулююць навучанне розным мовам. Дзе іх знайсці? Да каго звярнуцца, каб спытаць: чаму яны не выконваюцца?

І яшчэ. Ці толькі ў нашай школе такое становішча? І чаму ВНУ, ССНУ зжываюць французскую мову? А як абстаяць справы ў іншых школах? Хацелася б пачуць думку калег на гэты конт.

Нэлі КАЧАТКОВА,
настаўніца французскай мовы 2-й новалукомльскай школы.

## АД РЭДАКЦЫІ

Мы падтрымліваем прапанову, якую выказвае ў сваім лісце наш сталы аўтар Іван Сяргеевіч Храпавіцкі. Спадзяёмся, што запачаткаваную ім справу актыўна падтрымаюць сваімі допісамі яго калегі, і на старонках "НГ" з'явіцца Клуб матэматыкаў.

# У БЯЗВАЖКІМ СТАНЕ

## знаходзяцца матэматыкі, бо не маюць амаль ніякай інфармацыі аб матэматычным жыцці ў краіне

У прыкрае становішча трапілі настаўнікі матэматыкі нашай краіны. Мы да сённяшняга дня не маем свайго прадметнага часопіса. Гэта нягледзячы на тое, што матэматычная адукацыя і яе здабыткі заўсёды займалі трывалыя пазіцыі на Беларусі. У час пабудовы незалежнай дзяржавы трэба рупліва даглядаць і развіваць моцны інтэлектуальны патэнцыял. Няма неабходнасці даказваць значнасць у гэтай справе адмысловага часопіса для настаўніка. Цяпер мы знаходзімся ў бязважкім стане, бо не маем аніякай інфармацыі аб матэматычным жыцці ў краіне, пазбаўлены мажлівасці кантактаваць з калегамі на дастатковым узроўні. Семінары ды курсы перападрыхтоўкі? Яны вельмі рэдкія ды абмежаваныя па форме і змесцу. Не могуць нас задаволіць і тыя публікацыі, што часамі здараюцца ў "Народнай асвеце".

Вядома ж, напэўна ёсць у Міністэрстве адукацыі ды і ў іншых установах людзі, якія задумваліся над гэтай праблемай, выдатна разумеюць ейную пільнасць. Відаць, пакуль няма сродкаў, альбо проста не даходзяць рукі...

У мяне прапанова. Пакуль няма ў нас свайго часопіса, хай "Настаўніцкая газета" ахвяруе настаўнікам матэматыкі старонку хаця б раз на месяц.

Каб запачаткаваць справу, прапаную свой сціплы ўнёсак у яе.

Неяк патрапіў я, гартаючы "Зборнік экзаменацыйных матэрыялаў па матэматыцы за курс сярэдняй школы", на задачу: Вышыні трохвугольніка роўны 12, 15 і 20 см. Дакажыце, што трохвугольнік прамавугольны.

Рашэнне відавочнае. Няхай а, в, с — старана трохвугольніка, S — яго плошча. Тады, $a = 2S/20$, $b = 2S/15$, $c = 2S/12$. Заўважаем, што $a+b=c$, таму паводле тэарэмы. адваротнай тэарэме Піфагора, дадзены трохвугольнік — прамавугольны.

Каб гэтая задача была вычарпана да канца, варта паспрабаваць адшукаць яшчэ (пажадана ўсе) трохвугольнікі з цэлалікавымі вышынямі і якія з'яўляюцца прамавугольнымі.

Калі пазначыць вышыні трохвугольніка x, y, z, то дадзеная задача спараджае наступную, ужо чыста алгебраічную, дыафантаву праблему:

Рашыць раўнанне
у цэлых ліках x, y, z.

Згараючы ад нецярплівасці, я пераклаў праблему на мову маёй "супер" -ЭВМ. "Электроніка БК-0010Ш". Тая праз хвілін 15 "прагледзела" усе x, y, z з прамежку ад 1 да 50 і выдала апроч ужо вядомай тройкі яшчэ адну 24, 30, 40. Дык гэта ж я ведаў і без камп'ютэра, бо знойдзеныя лікі прапарцыйныя лікам 12, 15, 20. Падобных "троек", рашэнняў раўнання (*), вядома, безліч. Але ці ёсць гэта ўсе рашэнні?

Прыгледзімся ўважліва да лікаў 12, 15, 20. Чым яны адметныя?.. $12=3\times4$, $15 = 3\times5$, $20 = 4\times5$. 3, 4, 5 — піфагорава "тройка"! А што калі паспрабаваць шукаць новыя рашэнні наступным чынам.

Няхай m, n, k — адвольная піфагорава "тройка", г.зн. $m + n = k$. Возьмем $x = mn$, $y = mk$, $z = nk$. Лёгка праверыць, што раўнанне (*) спраўджваецца пры гэтых x, y, z! Прыкладам, узяўшы піфагораву "тройку" 5, 12, 13, атрымліваем $x = 60$, $y = 65$, $z = 156$ — новае рашэнне раўнання (*). Але ці спараджаюць такім чынам утвораныя "тройкі" ўсе рашэнні? Пытанне па-ранейшым застаецца адкрытым. Мая старэча-ЭВМ не здатная знайсці нейкую новую, таямнічую "тройку".

Вядомы польскі матэматык В.Сярпінскі згадвае пра аналагічнае раўнанне ў сваёй кніжцы "250 задач з элементарнай тэорыі лікаў", але адказу на маё пытанне там няма.

Буду вельмі ўдзячны таму матэматыку, каму ўдасца знайсці рашэнне, якое не падпадае пад формулы $x = mn$, $y = mk$, $z = nk$. Асабіста ў мяне ёсць прадчуванне, што новага рашэння "тройкі" няма.

**Іван ХРАПАВІЦКІ,**
**настаўнік матэматыкі школы №3 Глыбокага.**



— СЛЕД У НАВУЦЫ —

# НА КАРЫСЦЬ БЕЛАРУСІ

Споўнілася 75 гадоў выдатнаму вучонаму, педагогу, заслужанаму дзеячу навукі Беларусі, доктару філалагічных навук, прафесару Міхаілу Гапеевічу Булахаву. Нялёгкі, але слаўны жыццёвы і творчы шлях прайшоў вучоны. Ён нарадзіўся ў вёсцы Маслакі Горацкага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. З 1928 года па 1935-ты вучыўся ў Маслакоўскай сямігадовай школе, а па заканчэнні яе — на шасцімесячных падрыхтоўчых курсах пры Магілёўскім педагагічным інстытуце. З 1936 года — студэнт факультэта мовы і літаратуры гэтага ж інстытута. Аднак у сувязі з нястачай настаўнікаў у школах рэспублікі пасля трох гадоў навучання накіроўваецца на педагагічную працу ў якасці выкладчыка беларускай і рускай мовы і літаратуры Дулебненскай сярэдняй школы Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці.

Летам 1940 года экстэрнам здаў дзяржаўны экзамен па праграме інстытута, а восенню гэтага ж года прызываецца на абавязковую воінскую службу ў рады Савецкай Арміі. Да пачатку Айчыннай вайны служыў у Прыбалтыйскай ваеннай акрузе, у ваенныя гады — у дзеючай арміі на розных франтах — Заходнім, Калінінскім, Бранскім, 1-м Украінскім. Удзельнічаў у абарончых баях на тэрыторыі Літвы, Беларусі, Вялікалукскай, Смаленскай і Маскоўскай абласцей. Абараняў подступы да сталіцы нашай Радзімы — Масквы, а са снежня 1941 па люты 1942 г. удзельнічаў у гістарычным контрнаступленні савецкіх войск пад Масквой, у выніку якога гітлераўскія полчышчы былі адкінуты ад Масквы на 200—300 кіламетраў на захад. Ваяваў на Цэнтральным напрамку Заходняга фронту, змагаўся за вызваленне Правабярэжнай Украіны, прымаў удзел у фарсіраванні рэк Заходні Буг, Вісла, Одэр, Нейсе і ў завяршальных баях за Берлін і Прагу. Быў двойчы паранены і кантужаны. За баявыя заслугі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны ўзнагароджаны ордэнамі Чырвонай зоркі, Айчыннай вайны II ступені і медалямі. Пасля заканчэння вайны з мая 1945 года працягваў службу ў Цэнтральнай групе савецкіх войск, падраздзяленнях, якія дыслацыраваліся на тэрыторыях Чэхаславакіі і Венгрыі. Звольнены з радоў Савецкай Арміі ў запас у снежні 1945 года.

Закончылася ваеннае ліхалецце, наступілі мірныя стваральныя дні. Новыя задачы паўсталі перад былым франтавіком. Надышоў час здзяйснення даўніх задум і мараў, запаветных памкненняў і планаў.

І вось на пачатку новага 1946 года М.Г.Булахаў паступае ў аспірантуру пры Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце, якую закончыў у 1949 годзе. Вучобу ў аспірантуры на апошнім годзе яе праходжання сумяшчаў з педагагічнай работай. Са жніўня 1949 года Міхаіл Гапеевіч — загадчык кафедры рускай мовы, чытае курсы гісторыі рускай літаратурнай мовы, гістарычнай граматыкі, дыялекталогіі, сучаснай рускай мовы, вядзе спецкурсы па актуальных пытаннях мовазнаўства. Мне як былому студэнту інстытута і сёння дужа памятныя змястоўныя, насычаныя багатым фактычным матэрыялам лекцыі М.Г.Булахава, яго эрудыцыя, глыбокая аргументаванасць у выкладзе важных тэарэтычных палажэнняў лінгвістыкі. У 1950 годзе ён паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю ў Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР, а праз некаторы час — у снежні 1951 года — пераходзіць на сталую даследчую работу ў гэту навуковую ўстанову, дзе спачатку працаваў на пасадзе старшага навуковага супрацоўніка інстытута, а з 1952 года — загадчыка сектара сучаснай беларускай мовы.

На гэтай пасадзе ён прапрацаваў у інстытуце чатырнаццаць гадоў. У 1965 годзе па конкурсу быў абраны загадчыкам кафедры рускай мовы Белдзяржуніверсітэта, дзе абараніў і доктарскую дысертацыю. У 1966 годзе рашэннем ВАК яму была прысуджана вучоная ступень доктара філалагічных навук, а ў 1967 годзе — вучонае званне прафесара. З красавіка 1975 года па чэрвень 1990-га загадваў кафедрай агульнага і рускага мовазнаўства Мінскага педагагічнага інстытута (з 8 верасня 1993 года — Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта), дзе працуе і сёння на пасадзе прафесара кафедры тэорыі і гісторыі мовы. Такія ў агульных рысах штрыхі з біяграфіі юбіляра, яго жыццёвага і творчага шляху.

Як вучоны, даследчык, педагог М.Г.Булахаў пастаянна і нязменна, незалежна ад месца працы і вучобы ўдзяляў і ўдзяляе неаслабную ўвагу творчай, навукова-даследчай рабоце. Шырокая і разнастайная тэматыка яго навуковых інтарэсаў, пошукаў, незвычайна багатыя і плённыя творчыя набыткі даследчыка. Гэта — і шматлікія навучальныя дапаможнікі, падручнікі, зборнікі прац, заданняў, метадычныя распрацоўкі і практыкумы для вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, педвучылішчаў, гэта — і фундаментальныя навуковыя даследаванні складаных тэарэтычных праблем лінгвістыкі, пісьмовых помнікаў, твораў мастацтва, старажытнай пісьменнасці, творчай спадчыны выдатных айчынных і сучасных мовазнаўцаў. За перыяд работы ў вышэйшых навучальных установах, Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук Рэспублікі ім апублікавана каля 250 навуковых прац па беларускім, рускім і славянскім мовазнаўстве, у іх ліку 12 кніг і яшчэ 15 кніг у сааўтарстве.

Ён узначаліў аўтарскія калектывы для напісання такіх каштоўных і так неабходных падручнікаў і навучальных дапаможнікаў для студэнтаў філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў, як "Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы" ў трох кнігах (1957—1961 гг.), "Нарысы па гісторыі беларускай мовы" (1957), з'яўляецца сааўтарам калектыўных прац "Правілы беларускага правапісу і пунктуацыі" (1957), "Беларуская мова" ў 2-х частках для педвучылішчаў (1955—1958, 1968 гг.), адным з рэдактараў і сааўтараў першай у беларускім мовазнаўстве акадэмічнай нарматыўна-апісальнай "Граматыкі беларускай мовы" ў двух тамах (1962—1966 гг.) агульным аб'ёмам у 117 друк.арк. Ім асабіста падрыхтаваны зборнікі прац "Практыкаванні і матэрыялы па гісторыі беларускай мовы" (1956), "Практыкаванні і матэрыялы па курсу гісторыі беларускай мовы" (1969) і іншыя.

Шмат увагі ўдзяляў вучоны і рускай мове. Ён аўтар практыкума "Сборник задач и упражнений по синтаксису древнерусского языка" (1953), "Основные вопросы сопоставительной стилистики русского и белорусского языков" (1979), "Функционирование русского языка в близкородственном языковом окружении" (1981). Пад яго рэдакцыяй выйшаў у свет навучальны дапаможнік для аддзяленняў беларускай мовы і літаратуры педагагічных навучальных устаноў "Русский язык" (1979) аб'ёмам у 35 арк., пазней перапрацаваны і перавыдадзены ў 1993 годзе ў 2-х частках.



Новым словам у лінгвістыцы з'явіліся манаграфічныя выданні вучонага, як "Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў XIX—XX стст. ва ўзаемаадносінах з іншымі славянскімі мовамі" (1958), трохтомнае даследаванне аб беларускім прыметніку, у ліку якіх "Прыметнік у беларускай мове" (1964), "Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы XIV—XVIII стагоддзяў. Сінтаксічны нарыс" (1971), "Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы. Лексікалагічны нарыс" (1973), бібліяграфічны слоўнік "Восточнославянские языковеды" ў трох тамах (1976—1978 гг.), у якім змешчаны нарысы пра жыццё і навуковую дзейнасць 352-х усходнеславянскіх мовазнаўцаў ад XVI да 70-х гадоў XX ст. і на які ў выніку выключнай значнасці і важнасці даследавання паступіла і апублікавана звыш 40 станоўчых водгукаў і рэцэнзій у розных айчынных і зарубежных выданнях, у тым ліку ў Германіі, Чэхаславакіі, Югаславіі, Балгарыі.

Асобнае месца ў серыі бібліяграфічных прац вучонага займае манаграфічнае даследаванне "Евфимий Федорович Карский: Жизнь, научная и общественная дзеятельность" (1981), у якім упершыню так шырока разгледжаны жыццёвы і творчы шлях заснавальніка беларускай лінгвістычнай навукі, аўтара шматлікіх навуковых прац па беларускай, рускай, украінскай і іншых славянскіх мовах.

Вялікую навуковую каштоўнасць мае і наступная навуковая праца вучонага — энцыклапедычны слоўнік "Слово о полку Игореве" в литературе, искусстве, науке" (1989), у якім старанна сабраны і сістэматызаваны ў больш чым чатырохстах артыкулах асноўныя звесткі пра гісторыю помніка, яго адкрывальніка, першых і наступных даследчыкаў, перакладчыкаў, ілюстратараў і выдаўцоў, разгледжаны мастацкія, жанравыя, моўна-стылістычныя адметнасці твора, яго структурныя, кампазіцыйныя своеасаблівасці, рытміка, рыфмоўка, склад, будова.

Шмат публікацый юбіляра, прысвечаных граматычнай структуры, лексічнаму складу беларускай мовы, праблемам яе ўпарадкавання, нармалізацыі, вывучэнню гістарычных сувязей з рускай, украінскай і іншымі славянскімі мовамі, пытанням слова- і формаўжывання, словаўтварэння пэўных граматычных і лексіка-семантычных разрадаў і катэгорый слоў, змешчана ў шматлікіх перыядычных выданнях, зборніках навуковых прац, часопісах, газетных матэрыялах, што выдаваліся ці выдаюцца ў нашай краіне і за яе межамі.

Разнастайнай і багатай з'яўляецца грамадская дзейнасць вучонага. Ён быў адным з рэдактараў усіх васьмі выпускаў зборнікаў "Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР", які пачаў выдавацца з 1954 года. На працягу многіх гадоў (з 1969 па 1975 г.) з'яўляўся галоўным рэдактарам часопіса "Веснік Белдзяржуніверсітэта. Серыя 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія". Старшынёй спецыялізаванага Савета па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый пры філалагічным факультэце БДУ, намеснікам старшыні спецыялізаванага Савета пры Мінскім педагагічным інстытуце, членам філалагічнай секцыі Камітэта па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях пры Савеце Міністраў СССР.

Міхаіл Гапеевіч Булахаў — удзельнік шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных лінгвістычных з'ездаў, сімпозіумаў і канферэнцый па розных праблемах мовазнаўства. У верасні 1958 года ён удзельнічаў у IV Міжнародным з'ездзе славістаў, у кастрычніку 1970 года — выступаў з дакладам на міжнароднай канферэнцыі ў Любляне (Югаславія), у красавіку 1972 года — у горадзе Вяліка-Тырнава (Балгарыя), у чэрвені гэтага ж года — на міжнародным сімпозіуме ў Мінску, на якім зрабіў даклад аб адзінстве лінгвістычнага і літаратуразнаўчага аналізу мастацкіх твораў.

Вялікую ўвагу ўдзяляе Міхаіл Гапеевіч падрыхтоўцы навуковых кадраў вышэйшай кваліфікацыі. Пад яго кіраўніцтвам напісана і паспяхова абаронена 27 кандыдацкіх дысертацый. Чатыры былыя яго вучні ўжо сталі дактарамі навук.

За вялікія заслугі ў навуковай, педагагічнай і грамадскай дзейнасці Міхаіл Гапеевіч Булахаў у 1970 годзе ўзнагароджаны медалём "За доблестный труд", а ў кастрычніку 1971 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў Міхаілу Гапеевічу ганаровае званне заслужанага дзеяча навукі Беларусі. Ён узнагароджаны дзвюма Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета Беларусі.

Сёння на календары ў нас значыцца ўжо 1994 год. Толькі за гэты прамежак часу аддаленасцю амаль у чвэрць стагоддзя наш знакаміты юбіляр Міхаіл Гапеевіч Булахаў па велічы здзейсненага ў навуцы, грамадскай і культурнай сферах заслугоўвае самых высокіх урадавых узнагарод і акадэмічных званняў.

Шчыра жадаем Вам, паважаны Міхаіл Гапеевіч, моцнага здароўя і плёну ў працы, здзяйснення ўсіх творчых задум і планаў на карысць беларускай навукі і культуры.

**Аркадзь НАРКЕВІЧ,**
**прафесар Белдзяржуніверсітэта, доктар філалагічных навук.**

СТАРОНКІ НОВЫХ ПАДРУЧНІКАЎ

# ІНФАРМАТЫКА, 8 КЛАС

## §4. СТВАРЭННЕ І РЭДАГАВАННЕ БАЗЫ ДАНЫХ

### 4.1. Этапы стварэння базы даных

Стварэнне базы даных з'яўляецца складаным працэсам, які мае тры асноўныя этапы:

стварэнне структуры базы даных; увод структуры базы даных з дапамогай клавіятуры; напаўненне базы даных інфармацыяй.

Першы этап выконваецца без камп'ютэра на аснове аналізу звестак будучай базы даных. Астатнія этапы выкарыстоўваюць магчымасці СКБД, якая выбраная для стварэння базы.

Напаўненне базы даных можа займаць доўгі час і яго можна прыпыняць. У такім выпадку разглядаюць яшчэ адзін этап стварэння базы даных: дапаўненне базы даных інфармацыяй.

### 4.2. Стварэнне структуры базы даных

Стварыць структуру базы даных — гэта значыць вызначыць колькасць палёў запісу, іх паслядоўнасць, даць імя кожнаму полю і задаць тып і даўжыню для кожнага поля.

Тып поля звязаны з асаблівасцямі захоўвання розных відаў інфармацыі ў памяці камп'ютэра. Прывядзём асноўныя тыпы палёў: сімвальны тып, абазначэнне C (character); лікавы тып, абазначэнне N (numeric). Пры стварэнні структуры базы неабходна памятаць, што нягледзячы на вялікія магчымасці камп'ютэра ўсё ж існуюць абмежаванні на колькасць палёў. Гэтыя абмежаванні залежаць ад магчымасцей СКБД.

Разгледзім працэс стварэння базы даных "Падпіска", куды ўвойдуць звесткі з даставачных картак. Растлумачым, якія звесткі будуць знаходзіцца ў кожным полі і нададзім імя кожнаму полю. У большасці СКБД для запісу імя поля можна выкарыстоўваць толькі лацінскія літары і лічбы. Адначасова вызначым тып поля і яго даўжыню.

Поле N1: Прозвішча і ініцыялы падпісчыка. Імя поля — FAM, тып — C, даўжыня — 15 (мяркуем, што 15 сімвалаў дастаткова для запісу самага доўгага прозвішча з ініцыяламі)

Поле N2: Назва выпісанай газеты або часопіса. Імя поля — NAZ, тып — C, даўжыня — 20.

Поле N3: нумар месяца, з якога пачынаецца дастаўка (напрыклад, сакавіку адпавядае лік 3, а снежню — 12). Імя поля — TN, тып — N, даўжыня — 2.

Поле N4: нумар месяца, у якім заканчваецца дастаўка. Імя поля TK, тып — N, даўжыня — 2.

Поле N5: адрас падпісчыка. Імя поля — ADR, тып — C, даўжыня — 20. Запішам для прыкладу інфармацыю з даставачных картак у выглядзе табліцы, якая мае пяць калонак (палёў будучай базы даных), а кожны радок будзе з'яўляцца запісам будучай базы даных (табл. 1).

Табліца 1

| FAM | NAZ | TN | TK | ADR |
|---|---|---|---|---|
| Дзяркун С.С. | Знамя юности | 1 | 12 | Славінскага, 15-34 |
| Пермяк М.В. | Настаўніцкая газета | 1 | 6 | Славінскага, 21-19 |
| Шлыкаў А.К. | Народная газета | 1 | 3 | Сядых, 31-12 |
| Шлыкаў А.К. | Настаўніцкая газета | 4 | 12 | Сядых, 31-12 |
| Пятроў І.П. | Настаўніцкая газета | 1 | 9 | Каліноўскага, 53-78 |
| Пянкрат В.В. | Знамя юности | 7 | 9 | Сядых, 37-42 |
| Пянкрат В.В. | Народная газета | 1 | 12 | Сядых, 37-42 |

Табліца змяшчае сем запісаў. Безумоўна, для апрацоўкі сямі даставачных картак камп'ютэр не патрэбен. Але на гэтым вучэбным прыкладзе можна паказаць усе магчымасці сучасных базаў даных.

### 4.3. Увод структуры базы даных

Для ўвода структуры базы даных СКБД павінна быць загружанай у памяць камп'ютэра. Да рэжыму стварэння структуры пераходзяць пры дапамозе меню або камандай:

CREATE
Чытаецца: [крыэйт]
Абазначае: стварыць

У адказ на гэту каманду СКБД вывядзе на экран запыт, сэнс якога "УВЯДЗІЦЕ ІМЯ ФАЙЛА".

Дадзім файлу базы даных "Падпіска" імя PODP і ўвядзём гэта імя з клавіятуры.

Імя файла даных можна задаць непасрэдна пры ўваходзе ў рэжым стварэння структуры. Тады каманда ўваходу ў рэжым стварэння структуры мае выгляд:

CREATE PODP
Абазначае: стварыць PODP

СКБД пры запісу файла на дыск аўтаматычна дабавіць да імя файла пашырэнне. Напрыклад, СУБД dDASE дабаўляе пашырэнне .DBF і на дыску файл даных будзе мець імя PODP.DBF.

Пасля ўводу імя файла базы даных на экране паявіцца новае паведамленне, сэнс якога:

УВЯДЗІЦЕ СТРУКТУРУ ЗАПІСУ
ІМЯ ПОЛЯ, ТЫП, ДАУЖЫНЯ

Затым неабходна паслядоўна ўводзіць з клавіятуры апісанне першага поля: імя, тып, даўжыню. Пасля гэтага пераходзяць да апісання другога поля і г.д. Пры ўводзе апісання лікавага поля пазначаюць колькасць дзесятковых знакаў пасля коскі.

Пасля апісання ўсіх палёў СКБД выдасць запыт, сэнс якога "УВОДЗІЦЬ ДАНЫЯ?"

Пры адказе Y (YES,TAK) СКБД пераходзіць да рэжыму запаўнення базы даных. Пры адказе N (NO, НЕ) СКБД запісвае на магнітны дыск базу даных, у якой пакуль што няма інфармацыі, а затым СКБД вяртаецца да рэжыму кіравання.

### 4.4. Напаўненне базы даных

У рэжым напаўнення інфармацыяй базы даных СКБД можа перайсці пасля заканчэння ўводу структуры базы даных (п.4.3).

У рэжыме напаўнення на экране дысплея адлюстроўваецца шаблон уводу з паказам імён палёў і месцам для ўводу інфармацыі. Напрыклад:

FAM: :
NAZ: :
TN : :
TK : :
ADR: :

Па правы бок ад імя поля ў шаблоне ўводу пазначана месца для інфармацыі. Гэта месца абмежавана даўжынёй поля. Напрыклад, для трэцяга поля TN зададзена даўжыня 2, а ў радку паміж межамі можна размясціць не больш за два сімвалы.

На экране адлюстроўваецца таксама паказальнік нумара актыўнага запісу. Запіс называецца актыўным, калі СКБД працуе з гэтым запісам у дадзены момант. У пачатку напаўнення базы паказальнік будзе роўны 1 (г.зн. актыўным з'яўляецца запіс нумар 1).

Возьмем першы радок табліцы 1 і, карыстаючыся клавіятурай, увядзём інфармацыю з гэтага радка. Пасля ўводу ўсіх даных першага радка (гл. табліцу 1) на экране будзе адлюстраваны запіс:

FAM: Дзяркун С.С. :
NAZ: Знамя юности :
TN : 1 :
TK : 12 :
ADR: Славінскага, 15-34:

Гэтаму запісу будзе прысвоены нумар 1, паказальнік нумара актыўнага запісу змяняецца з 1 на 2 і на экране аўтаматычна адлюстроўваецца пусты шаблон для ўводу другога запісу.

Такім чынам, запісы па чарзе ўводзяцца ў базу даных і атрымліваюць кожны свой нумар. Калі ўзнікае неабходнасць звярнуцца да папярэдняга запісу, то гэта робяць з дапамогай клавіятуры.

Пасля ўводу апошняга сёмага запісу на экране адлюстроўваецца пусты шаблон для восьмага запісу. Увод інфармацыі заканчваюць і СКБД вяртаецца ў рэжым кіравання. У выніку ўводу база даных "ПАДПІСКА" сфарміравана і будзе захоўвацца на магнітным дыску як файл з імем PODP (пашырэнне імя дабавіць сама СКБД).

### 4.5. Папаўненне базы даных

Напаўненне базы даных можна перарваць на любым этапе. Незавершаная база даных будзе захоўвацца на дыску ў файле пад імем PODP.

Пры новым сеансе работы базу даных загружаюць у памяць камп'ютэра (п.3.4) і потым пераходзяць да рэжыму напаўнення (папаўнення) базы. З гэтай мэтай у камандным рэжыме кіравання набіраюць каманду:

APPEND
Чытаецца: [апэнд]
Абазначае: папоўніць

На экране адлюстроўваецца пусты шаблон уводу для запісу з нумарам на адзінку большым, чым апошні ўведзены запіс. Інфармацыю ў базу даных уводзяць таксама, як і ў папярэднім пункце.

### 4.6. Рэдагаванне асобных запісаў

Калі пры рабоце з базай даных знойдзены памылкі або недакладнасці ў інфармацыі, то змест запісаў базы даных можна адрэдагаваць з дапамогай СКБД, выкарыстаўшы рэжым рэдагавання.

Пры загружанай базе даных (п.3.4) пераход да рэжыму рэдагавання можна ажыццявіць з дапамогай меню або выкарыстаць у камандным рэжыме кіравання каманду:

EDIT
Чытаецца: [эдыт]
Абазначае : рэдагаваць

На экране адлюстроўваецца шаблон уводу з інфармацыяй. Ад актыўнага запісу да "суседніх" запісаў можна пераходзіць з дапамогай спецыяльных клавіш клавіятуры.

Інфармацыю запісу базы даных змяняюць прыёмамі карэкціроўкі тэкставай інфармацыі (як у тэкставым рэдактары). Цяжкасці з пошукам патрэбнага запісу могуць узнікнуць, калі база даных уключае вялікую колькасць запісаў. Дапусцім, што неабходна адрэдагаваць запіс нумар 37. У гэтым выпадку неабходна ўвайсці ў рэжым рэдагавання з дапамогай каманды:

EDIT RECORD 37
Чытаецца: [эдыт рэкод] 37
Абазначае: рэдагаваць запіс 37

Пасля ўводу каманды шаблон на экране будзе ўтрымліваць інфармацыю запісу нумар 37, аб чым сведчыць паказальнік актыўнага запісу. У рэжыме кіравання з дапамогай меню спачатку "падводзяць" паказальнік да неабходнага запісу, г.з. робяць актыўным патрэбны запіс, а потым пераводзяць СКБД у рэжым рэдагавання.

ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Пералічыце асноўныя этапы стварэння базы даных.
2. Растлумачце, што абазначае стварыць структуру базы даных.
3. Пералічыце асноўныя тыпы палёў і іх абазначэнні.
4. Ёсць файл даных, які змяшчае запісы з такімі палямі: а) марка аўтамабіля;
б) год выпуску;
в) краіна;
г) дзяржнумар;
д) прозвішча ўладальніка.
Дайце імёны файлу даных і палям. Абазначце тыпы палёў.
5. Які запіс базы даных называюць актыўным?

## 5. ПОШУК ІНФАРМАЦЫІ У БАЗЕ ДАНЫХ

### 5.1. Прагляд базы даных

СКБД дазваляе праглядаць на экране дысплея змесціва базы даных, якое загружана з файла на дыску. У камандным рэжыме кіравання СКБД выконвае аперацыі прагляду па камандзе:

LIST
Чытаецца: [ліст]
Абазначае : перагартаць

На экране паяўляецца інфармацыя базы даных цалкам з першага запісу да апошняга. Кожны запіс паказаны як адзіны радок, у якім за інфармацыяй першага поля ідзе прабел і потым інфармацыя другога поля і г.д. Калі радок запісу не памяшчаецца на экране, то ён пераносіцца на наступны радок экрана. Кожны запіс базы даных выводзіцца на экран з новага радка.

Калі ўвесь экран запоўніцца, а запісы базы яшчэ засталіся, то новыя запісы дапісваюцца знізу і "выціскаюць" папярэднія ўверх па экрану. Пры гэтым радкі з інфармацыяй у верхняй частцы экрана знікаюць.

На экране можна прагледзець асобныя палі базы даных згодна з выбарам. Напрыклад, каб прагледзець палі FAM і ADR, у камандным рэжыме кіравання неабходна ўвесці каманду:

LIST FAM, ADR
Абазначае: перагартаць FAM, ADR

На экране будуць выведзены радкі запісаў складзеныя толькі з інфармацыі палёў FAM і ADR. Напрыклад, такі выгляд будуць мець на экране першыя чатыры запісы:

ЗапісьN FAM ADR
1 ДзяркунС.С. Славінскага, 15-34
2 Пермяк М.В. Славінскага, 21-19
3 Шлыкаў А.К. Сядых, 31-12
4 Шлыкаў А.К. Сядых, 31-12

Палі для прагляду можна задаваць і ў адвольным парадку.

### 5.2. Пошук інфармацыі па запыту. Простыя ўмовы

Пры рабоце з базай даных карыстальніка цікавіць, як правіла, не ўся база даных, а толькі асобныя яе запісы.

Для вываду на экран неабходнай інфармацыі карыстальнік павінен даць СКБД канкрэтныя загады, што патрэбна шукаць, г.зн. сфармуляваць умовы, якім павінны задавальняць запісы, што нас цікавяць.

Для фарміравання запытаў да базы даных выкарыстоўваецца каманда LIST, у якой змешчаны ўмовы пошуку. Умовы могуць быць простыя і састаўныя.

Прывядзем прыклады простых умоў для базы даных "ПАДПІСКА":

а) FAM = 'Шлыкаў А.К.'
б) FAM = 'П'
в) TN = 7
г) TK < 9
д) TN >= 3

Згодна з умовамі а) і б) СКБД будзе шукаць запісы, у якіх інфармацыя ў полі FAM пачынаецца з названых сімвалаў. У выпадку а) гэта будуць запісы 3 і 4 (гл. табл.1), а ў выпадку б) — запісы 2, 5, 6, 7.

Згодна з умовай в) СКБД шукае запісы, якія ў полі TN маюць лік 7 (запіс 6). Умова г) пакажа на запісы 2 і 3, умова д) — на запісы 4 і 6.

Каманда LIST з умовай а) будзе мець выгляд:

LIST FOR FAM = 'Шлыкаў А.К.'
Чытаецца: [ліст фо] FAM = Шлыкаў А.К.
Абазначае: перагартаць для FAM = 'Шлыкаў А.К.'

Тут FOR службовае слова. На экран будуць выдадзены два радкі з запісам 3 і 4. Каманда LIST з выкарыстаннем умовы д) будзе мець выгляд:

LIST FOR TN >= 3
Чытаецца: [ліст фо] TN [больш-роўна] 3
Абазначае: перагартаць для TN >= 3

СКБД дазваляе выводзіць на экран па запыту не ўвесь запіс цалкам, а асобныя палі запісаў. Няхай, напрыклад, неабходна даведацца адрас падпісчыка Пятрова І.П. Умова пошуку будзе мець выгляд

FAM = 'Пятроў І.П.'

Выводзіць звесткі з астатніх палёў запісу не мае сэнсу, таму выведзем на экран толькі інфармацыю палёў FAM і ADR. Каманда пошуку (запыт) будзе мець выгляд:

LIST FAM, ADR FOR FAM = 'Пятроў І.П.'
Абазначае: перагартаць FAM, ADR для FAM = 'Пятроў І.П.'

На экране паявіцца адказ на запыт у выглядзе:

ЗапісьN FAM ADR
5 Пятроў І.П
Каліноўскага, 53-78

Парадак палёў для адлюстравання таксама можа быць адвольным.

### 5.3. Пошук інфармацыі па запыту. Састаўныя ўмовы

Часта здараецца, што для атрымання неабходнай інфармацыі з базы даных патрабуецца сфармуляваць умовы, якія змяшчаюць дзве або тры простыя ўмовы. Напрыклад, патрабуецца даведацца, якія выданні будуць прыходзіць падпісчыкам увесь чацвёрты квартал. Умовы пошуку павінны мець дзве простыя ўмовы: першая — TN <= 10, другая — TK = 12.

Умовы, якія змяшчаюць некалькі простых умоў называюцца састаўнымі. У дадзеным выпадку састаўныя ўмовы запішуцца ў выглядзе:

TN <= 10 .AND. TK = 12

Службовае слова .AND. (і) звязвае дзве простыя ўмовы ў адну састаўную. Каб такая састаўная ўмова са службовым словам .AND. выконвалася, павінны адначасова выконвацца дзве простыя ўмовы.

У дадзеным прыкладзе няма неабходнасці выводзіць на экран поўныя запісы базы даных, таму вывядзем на экран толькі інфармацыю поля NAZ. Запыт прыме выгляд:

LIST NAZ FOR TN <= 10 .AND. TK = 12
Чытаецца: [ліст] NAZ [фо] TN <= 10 [энд] TK = 12
Абазначае: перагартаць NAZ для TN <= 10 і TK = 12

На экране адлюструецца адказ на запыт у выглядзе:

1 Знамя юности
4 Настаўніцкая газета
7 Народная газета

СКБД дазваляе выкарыстоўваць і іншыя службовыя словы для стварэння састаўных умоў. Пры запісу састаўных умоў можна карыстацца круглымі дужкамі.

ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. У якім выглядзе інфармацыя базы даных выводзіцца на экран пры праглядзе?
2. Састаўце запыт на пошук назваў выданняў, якія выпісаны падпісчыкам Шлыкавым А.К.
3. Састаўце запыт на пошук прозвішчаў падпісчыкаў, якія жывуць па вуліцы Сядых.
4. Якія ўмовы пры запісу каманды запыту называюць састаўнымі?
5. Састаўце запыт на пошук назваў выданняў, якія будуць прыходзіць падпісчыкам у першым паўгоддзі, з паказам прозвішча падпісчыка і яго адраса.

